Гродна
№6 (512),
24 сакавіка 2019

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# МІЛАСЭРНАЯ ЛЮБОЎ – НЕАД’ЕМНАЯ ЧАСТКА КАСЦЁЛА

**У ІІІ НЯДЗЕЛЮ ВЯЛІКАГА ПОСТУ Ў КАТАЛІЦКІМ КАСЦЁЛЕ Ў БЕЛАРУСІ ТРАДЫЦЫЙНА АДЗНАЧАЕЦЦА ДЗЕНЬ “КАРЫТАС”. ГЭТА ДОБРАЯ НАГОДА, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА І ЎЗГАДАЦЬ, НАКОЛЬКІ ВАЖНА БЫЦЬ ДОБРЫМ І МІЛАСЭРНЫМ У СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ.**

● праця́г на с. 3






“Міласэрнасць саграе сэрца і робіць яго чулым”. Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

## III НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Лк 13, 1–9**

У той час прыйшлі некаторыя і расказалі Езусу пра галілеян, кроў якіх Пілат змяшаў з іх ахвярамі. Езус адказаў ім на гэта: “Думаеце, што гэтыя галілеяне былі большымі грэшнікамі за ўсіх галілеян, бо так пацярпелі? Не. Кажу вам, але калі не пакаецеся, усе таксама загінеце. Думаеце, што тыя васемнаццаць, на якіх звалілася сілаамская вежа і забіла іх, былі больш вінаватыя за ўсіх людзей, якія жылі ў Іерусаліме? Не. Але кажу вам, калі не пакаецеся, усе таксама загінеце”. І расказаў вось якую прыпавесць: “Адзін чалавек меў у вінаградніку сваім пасаджаную смакоўніцу і прыйшоў шукаць плоду на ёй, і не знайшоў. І сказаў вінаградару: «Вось я трэці год прыходжу шукаць плоду на гэтай смакоўніцы, і не знаходжу. Ссячы яе. Навошта яна займае зямлю?». Але той сказаў яму ў адказ: «Пане, пакінь яе на гэты год. Я абкапаю яе і абкладу ўгнаеннем. Можа, прынясе плод у будучым, а калі не, ссячэш яе»”.

### ПРЫНЯСЁМ ПЛЁН

Чалавека можна параўнаць са смакоўніцай, за якой Езус як клапатлівы і цярплівы Садоўнік даглядае асабіста. Грэх прыводзіць да таго, што асоба губляе здольнасць прымаць службу Хрыста. Без ласкі Найвышэйшага мы можам жыць у дастатку і спакоі, але марна. Становімся тады падобнымі на дрэва, якое не прыносіць плод. Як ведаем з Евангелля, такую расліну ссякаюць і выкідваюць з саду.

Прыняцце прысутнасці Бога і Яго дзеяння здзяйсняецца на шляху навяртання. Касцёл ахвяруе для гэтага цудоўны інструмент – сакрамант пакаяння і паяднання, які можна акрэсліць як месца, адзначанае прысутнасцю і дзеяннем Усемагутнага. Пан запрашае кожнага прыняць Яго паслугу.

Няхай канфесіянал стане для нас Святой Зямлёй. Давайце ўваходзіць туды як мага часцей, каб Збаўца вывеў нас з няволі граху, каб напоўніў жыццё добрымі пладамі: святасцю, любоўю, Сабой…

**Як я выконваю тую працу, якую ніхто не можа зрабіць замест мяне?**

**Ці малюся, каб Бог увайшоў у маё сэрца і перамяніў яго?**

## IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
**Лк 15, 1–3. 11–32**

Набліжаліся да Езуса ўсе мытнікі і грэшнікі, каб паслухаць Яго. А фарысеі і кніжнікі наракалі, кажучы: “Ён прымае грэшнікаў і есць з імі”. Але Езус расказаў фарысеям і кніжнікам наступную прыпавесць, кажучы: “У аднаго чалавека было два сыны. Малодшы з іх сказаў бацьку: «Ойча, дай належную мне частку маёмасці». І той падзяліў паміж імі маёмасць. Праз некалькі дзён малодшы сын забраў усё і ад’ехаў у далёкі край, і там растраціў сваю маёмасць, жывучы распусна. А калі ён аддаў усё, настаў вялікі голад у тым краі, і ён апынуўся ў нястачы. Тады пайшоў і наняўся да аднаго жыхара гэтага краю, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свіней. Ён жадаў напоўніць жывот свой стручкамі, што елі свінні, але ніхто не даваў іх яму. Апамятаўшыся, ён сказаў: «Колькі наймітаў у бацькі майго маюць удосталь хлеба, а я гіну тут з голаду. Устану і пайду да бацькі майго, і скажу яму: Ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх». І ён ўстаў, і пайшоў да свайго бацькі. А калі быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька ягоны і зжаліўся. І, пабегшы, кінуўся яму на шыю, і пацалаваў яго. А сын сказаў яму: «Ойча, зграшыў я супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам». Бацька ж сказаў слугам сваім: «Прынясіце хутчэй найлепшую вопратку і апраніце яго, і дайце пярсцёнак на руку яго і сандалі на ногі. Прывядзіце адкормленае цяля і зарэжце. Будзем есці і весяліцца, бо гэты сын мой быў памерлы і ажыў, прапаў і знайшоўся». І пачалі весяліцца. А старэйшы сын ягоны быў на полі. І калі, вяртаючыся, падышоў да дому, пачуў музыку і танцы. Паклікаўшы аднаго са слуг, спытаўся: «Што гэта такое». Той адказаў яму: «Брат твой вярнуўся, і бацька твой зарэзаў адкормленае цяля, бо атрымаў яго назад здаровым». Ён разгневаўся і не хацеў уваходзіць. Тады выйшаў бацька ягоны і пачаў прасіць яго. Але ён адказаў бацьку: «Вось я столькі гадоў служу табе і ніколі не парушыў загаду твайго, але ты ніколі не даў мне нават казляня, каб я павесяліўся з маімі сябрамі. А калі вярнуўся гэты сын твой, які змарнаваў тваю маёмасць з распусніцамі, ты зарэзаў для яго адкормленае цяля». Ён жа адказаў яму: «Дзіця, ты заўсёды са мною, і ўсё маё – тваё. А цешыцца і весяліцца трэба было таму, што гэты брат твой быў мёртвы і ажыў, прапаў і знайшоўся»”.

### АКАЖАМ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Прыпавесць пра міласэрнага Айца прыгадвае аб паставе, якую раз і назаўсёды павінен прыняць хрысціянін: незалежна ад поглядаў, канфесіі, становішча ў грамадстве, дастатку і паходжання, кожны чалавек з’яўляецца дзіцём Бога. Кожны заслугоўвае пашаны, любові і прабачэння.

Калі мы просім Пана міласэрнасці для сябе саміх і ўсяго свету, абавязаны аказваць яе іншым. Гэта пацвярджаюць таксама словы Хрыста, скіраваныя св. Фаўстыне: “Калі душа не аказвае міласэрнасці якім-небудзь чынам, не атрымае Маёй міласэрнасці ў дзень Суда” (Дз. 1317). Пан прагне, каб кожны чалавек на працягу дня здзяйсняў хаця б адну добрую справу ўчынкам, словам ці малітвай.

Просім Усемагутнага аб духу міласэрнасці.

**Ці здольны я сваім учынкам, словам і малітвай аказваць міласэрнасць іншым?**

**Якім чынам дзякую Богу за Яго любоў?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Заўважыць і адрэагаваць

*Сёння слова “міласціна” становіцца ўсё менш папулярным, паступова сыходзіць у нябыт. У многіх яно атаясамліваецца з літасцю, вымушаным спачуваннем і дробнымі манетамі. Мы забываемся, што міласціну можна чыніць па-рознаму, але заўсёды з радасцю і жаданнем.*

“Больш шчасця ў тым, каб даваць, чым у тым, каб браць”, – чытаем у Дзеях Апосталаў (Дз 20, 35). На жаль, вельмі часта мы не памятаем пра гэтую ісціну і не карыстаемся нагодай, калі можам дапамагчы, апраўдваючыся недахопам часу, грошай, жадання… Дзяленне чымсьці з іншымі часам прыносіць турботы. На думку прыходзіць пытанне: чаму менавіта я мушу дапамагаць? Адказ просты: бо Ты вызнаўца Хрыста, таму павінен прытрымлівацца запаведзі любові да бліжняга.

Сапраўдны хрысціянін здольны заўважыць чужую нядолю і хутка на гэта зрэагаваць. Ён не пройдзе абыякава міма галоднага ці прагнучага, ахвотна падзеліцца з ім тым, што мае… “Міласціна чалавека – як пячаць у Яго” (Сір 17, 18). Гэтай пячаццю кожны з нас быў адзначаны падчас хросту. Яна сведчыць пра адданасць Усемагутнаму праз рэалізацыю Яго запаведзей. І толькі ад нас залежыць, ці гэты знак, які акрэслівае нашу чалавечнасць у люстэрцы Хрыстовай праўды, будзе выразны; ці не станем з-за сваіх беззаконняў і падзенняў сляпымі і глухімі да евангельскага паслання; ці не сатром са сваёй душы выяву пячаці-запавету з Найвышэйшым.

Міласціна з’яўляецца дарам з таго, чаго ў нас саміх не хапае, чаго не маем у дастатку. Дарам, які духоўна ўзбагачае, раз’ясняе змрок, выкліканы ўласнай слабасцю, грахом, нядбайнасцю. Дарам, які вядзе ў Божае Валадарства. Дарам, які аддзячвае любоўю за любоў Айца і за ахвяру на крыжы Збаўцы. Дарам, дзякуючы якому нашы грахі “важаць менш”.

Многія айцы Касцёла заклікалі да посту, якім “наеліся б убогія”. Адкрываючыся на патрэбы бліжніх, мы пазбаўляемся ад уласнага эгаізму, сквапнасці і прагнасці. Аднак варта памятаць, што нашы добрыя ўчынкі, якія чэрпаюць сваю сілу з веры, з’яўляюцца не нагодай для гордасці, а абавязкам кожнага хрысціяніна: каму дадзена шмат, з таго і спагнана будзе шмат; і каму даручана шмат, ад таго больш і запатрабуюць (параўн. Лк 12, 48).

**Дарагія Чытачы!**

Здзяйсненне спраў міласэрнасці патрабуе вялікіх намаганняў і ахвяры. Аднак мы не можам спыняцца! Просім Усемагутнага аб стойкасці і моцы, каб здолець несці любоў і дабро свету штодня… Пакуль яшчэ маем на гэта час.

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах пакліканняў і фармацыі да прэзбітэрату

Пакліканне з’яўляецца таямніцай веры, якая рэалізуецца ў дыялогу чалавека з Богам. І ён залежыць не ад эфектыўных маркетынгавых прыёмаў, а ад таго, наколькі маладыя людзі будуць сталыя, каб увайсці ў глыбокую сувязь з Хрыстом, паколькі толькі дзякуючы ласцы ад Пана яны здольны пазнаць уласныя жаданні і пачуць Божае запрашэнне.

Супольнасць Касцёла спакон вякоў клапоціцца пра маладых людзей, якія шукаюць сэнс жыцця і адкрываюць таямніцу Усемагутнага ў сваёй душы. Задачай Сінадальнай камісіі па справах пакліканняў і фармацыі да прэзбітэрату з’яўляецца распрацоўка новых, адэкватных для сённяшніх рэалій спосабаў ажыўлення пакліканняў да службы Богу, а таксама падрыхтоўкі будучых прэзбітэраў. Яна ставіць за мэту прыглядзецца да 2-ух сфер: абуджэння пакліканняў да прэзбітэрату і фармацыі да святарства – каб прапанаваць новыя рашэнні ды прыгадаць вернікам лакальнага Касцёла, што клопат пра гэтую справу належыць усім дыяцэзіянам.

Камісія адзначае, што значнай падтрымкай для душпастырства пакліканняў з’яўляецца малітва вернікаў у гэтай інтэнцыі, таму што яна стварае ідэальныя ўмовы, каб асоба магла адкрыць праўду свайго існавання і значэнне непаўторнага плана жыцця, даручанага ёй Стварыцелем. Па гэтай прычыне ўзнікла прапанова ў кожнай парафіі ў першыя чацвяргі месяца арганізаваць набажэнствы ў інтэнцыі пакліканняў да святарства і кансэкраванага жыцця.

Падчас пасяджэнняў члены Камісіі таксама падкрэсліваюць, што найважнейшым месцам выхавання паклікання з’яўляецца сям’я. Гэта першае асяроддзе, якое вучыць адкрывацца на голас Божага закліку. Ад яе ў большай ступені залежыць сталенне маладых людзей да Стварыцеля, бліжніх і саміх сябе. Таму задача бацькоў – шанаваць і развіваць евангельскія каштоўнасці, прыкладам уласнага жыцця ўмацоўваць веру і любоў да Пана ў сваіх дзецях.

Члены Камісіі звяртаюць увагу і на неабходнасць пакліканневай катэхезы, у якой выхавацелі, а асабліва духавенства, павінны выразна і рашуча прадставіць пакліканне як рэальную магчымасць для маладых людзей, якія маюць неабходныя дары і прыкметы. Аднак клопат аб абуджэнні жадання пайсці за Хрыстом не павінен стаць падобны на прапаганду, таму што кліча Бог, а не чалавек. Такім чынам, пакліканневыя акцыі павінны дапамагаць у адкрыцці паклікання, а не навязваць яго.

Давайце маліцца за ўсіх, хто распачаў служэнне ў Касцёле, а таксама за тых, каго Хрыстос запрасіў да гэтай паслугі, каб былі “вучнямі, захаханымі ў Пана”, гатовымі стаць прыладамі Яго міласэрнасці.

*Кс. Юрый Марціновіч*




# Міласэрная любоў – неад'емная частка Касцёла

● працяг са с. 1

***Чаму сапраўдны хрысціянін павінен праяўляць любоў да бліжняга? Ці не бракуе ахвотных, каб працягнуць руку дапамогі людзям, якія па розных прычынах апынуліся на ўзбочыне жыцця: адкінутыя, нікому не патрэбныя? На гэтыя і іншыя пытанні ў сённяшнім нумары "Слова Жыцця" адказвае кс. бп Алег Буткевіч, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі.***

***– Ваша Эксцэленцыя, Вы з'яўляецеся старшынёй Рады ККББ па справах дабрачыннасці, справядлівасці і міру. Скажыце, калі ласка, чаму Касцёл актыўна заклікае дапамагаць патрабуючым, быць міласэрнымі?***

– Апека над "сіротамі і ўдовамі" – адзін з асноўных відаў дзейнасці Касцёла, якой ён займаецца ад пачатку свайго існавання. Пра гэта чытаем ужо ў Дзеях Апосталаў, дзе апісаны ўзнікненне і першыя крокі заснавання Хрыстом Касцёла. Дапамога патрабуючым – гэта місія, якая разам з абвяшчэннем Евангелля была і застаецца заданнем вучняў Хрыста. Такі загад мы атрымалі ад свайго Настаўніка, які прыйшоў не толькі для таго, каб вызваліць ад граху і смерці, але і каб навучыць адпаведна паводзіць сябе ў гэтым жыцці, шукаючы сродкаў на нашыя беды. Таму дабрачынная дзейнасць Касцёла – гэта дзейнасць самога Хрыста, які застаецца з намі "ва ўсе дні, аж да сканчэння веку" (Мц 28, 20). Аднак разам з тым Езус патрабуе ў гэтай справе ахвотных рук і шчырых сэрцаў тых, хто ў Яго верыць, ці проста людзей добрай волі. З іншага боку, дабрачыннасць была і застаецца сродкам, здольным заўважыць чалавека, які па розных прычынах аказаўся па-за межамі грамадскага жыцця без падтрымкі, аднак надалей мае права на сваю годнасць як створаны па вобразе і на падабенства Бога. Таму канкрэтная дапамога бліжняму з'яўляецца праяўленнем любові не толькі да чалавека, але і да Бога.

***– У чым асаблівасць дабрачынных праектаў, якія арганізуюцца Каталіцкім Касцёлам у Беларусі, і што дапамагае прыцягнуць да ўдзелу ў іх большую колькасць людзей?***

– Спецыфіка дабрачыннай дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў той ці іншай краіне абумоўлена мясцовай сітуацыяй і патрабаваннямі, якія вынікаюць з умоў жыцця людзей, іх узроўню, абставін сацыяльна-палітычнага характару. У розных краінах яны могуць адрозніваца ў пэўных пытаннях, але асноўным адрасатам гэтай дапамогі заўсёды застаецца чалавек, які трапляе ў складаную жыццёвую сітуацыю, сутыкаецца з той ці іншай праблемай, з якой не можа справіцца самастойна. Найчасцей гэта справы, звязаныя з сацыяльным утрыманнем, умовамі жыцця, выхаваннем дзяцей, апекай састарэлых людзей, некаторымі хваробамі, інваліднасцю. Гаворым якраз пра тыя кірунки, якія Каталіцкі Касцёл ахоплівае сваёй дабрачыннай дзейнасцю ў Беларусі. Разам з тым, выклікам Касцёла ў Еўропе з'яўляецца пытанне дапамогі эмігрантам. Перад намі на сённяшні дзень такое пытанне вострa не стаіць. З іншага боку, важным момантам з'яўляецца ўключэнне як мага большай колькасці людзей у дабрачынную дейнасць. У Касцёле для тых, хто цікавіцца гэтай справай больш падрабязна, праануюцца розныя курсы, семінары, трэнінгі.

***– У Беларусі людзі сталі менш ахвяраваць на дабрачыннасць. Паводле апублікаванага сусветнага рэйтынгу дабрачыннасці "World Giving Index – 2018", у якім улічваюцца 3 паказчыкі: матэрыяльныя ахвяраванні, дапамога незнаёмцам і валанцёрства, – наша краіна займае 121-ае месца са 144-ці. Пры гэтым у 2017 годзе Беларусь займала 117-ую пазіцыю, у 2016 – 110-ую, а ў 2014 – 84-ую. Бачна, што рэйтынг краіны падае. Ці насамрэч прычына ў тым, што беларусы сталі менш міласэрнымі і менш здольнымі да суперажывання?***

– Не думаю, што гэта так. Варта звярнуць увагу, што важным фактарам тут застаецца выхаванне ў веры. Але існуюць іншыя прычыны. Напэўна, адной з іх з'яўляецца матэрыяльнае становішча людзей, асабліва ў невялікіх мястэчках і вёсках, дзе нялёгка знайсці працу з дастатковым узроўнем аплаты, а таму першасны клопат датычыць утрымання сябе і сваёй сям'і. Гэта і невысокая дэмаграфія, і маладзетныя сем'і, і занепакоенасць заўтрашнім днём, якая канцэнтруе ўвагу больш на сабе і сваіх асабістых справах.

***– Сярод стымулаў, якія падштурхоўваюць да добрых учынкаў, эксперты называюць празрыстасць механізма дапамогі і яе адраснасць. У некаторых краінах гэтае пытанне вырашае "правіла аднаго працэнта", калі грамадзяне маюць права пералічыць адзін працэнт падаходнага падатку на дзейнасць некамерцыйных, часцей за ўсё дабрачынных, арганізацый. Як лічыце, ці патрэбна гэта ў Беларусі?***

– Напэўна, большая даступнасць і празрыстасць магчымасці ўдзелу ў дабрачыннасці як фізічных, так і юрыдычных асоб дапамагла б вырашыць некаторыя існуючыя пытанні, як, напрыклад, з атрыманнем і выкарыстаннем дабрачыннай дапамогі з-за мяжы. Аднак на сённяшнім узроўні адносін Касцёла і дзяржавы гэтае пытанне яшчэ патрабуе дапрацоўкі.

***– Пэўны каталіцкі іерарх параўнаў дабрачыннасць з "ціхім, але жывым і актыўным каханнем, якое сведчыць аб нашай асабістай сустрэчы і адносінах з Хрыстом", і падкрэсліў, што асобы, занятыя ў дабрачыннай дзейнасці, павінны быць сапраўднымі сведкамі Хрыста. А на Вашую думку, чаму звычайнаму чалавеку неабходна практыкаваць дабрачыннасць?***

– Дабрачыннасць дапамагае чалавеку выйсці па-за межы ўласнага "я", не замкнуцца ў сабе, зразумець, што не я адзін, жывучы ў гэтым свеце, маю праблемы. А дапамагаючы бліжняму, магу разлічваць, што і мне хтосьці некалі прыйдзе з дапамогай. Дабрачыннасць дазваляе захаваць духоўныя каштоўнасці, якія сёння губляюць сваю папулярнасць: салідарнасць, узаемадапамогу, міласэрнасць – насуперак перакананню, што найважнейшым у гэтым свеце з'яўляецца матэрыяльны дабрабыт. Прынамсі мы як хрысціяне павінны сведчыць сваім жыццём аб тым, што існуе духоўная рэчаіснасць, нашмат прыгажэйшая і непамерна больш каштоўная. Таму дабрачыннасць – гэта вельмі эфектыўны сродак практыкі любові да Бога і бліжняга, а праз гэта – і ўмацаванне пачуцця ўласнай годнасці як чалавека.

***– Салідарнасць і ўзаемадапамога – гэта агульначалавечыя каштоўнасці, зададзеные для кожнага з нас. Нaколькі рэлігія спрыяе таму, каб чалавек быў гуманным і дапамагаў бліжнім?***

– Рэлігія, кажу зараз пра хрысціянства, дае адказ чалавеку на такія фундаментальныя пытанні, як "хто я?" і "навошта жыву?". Правільны адказ на іх немагчымы без усведамлення ролі і прысутнасці іншага чалавека ў нашым жыцці, створанага, так як і мы, па вобразе і на падабенства Бога. Таму рэлігія з самага пачатку закладае, што шлях да Бога не можа абысціся без удзелу бліжняга. У хрысціянстве гэтая думка ляжыць, увогуле, у аснове ўсёй яго ідэі, бо грунтуецца на праўдзе аб Уцелаўленні Божага слова і прыняцці Ім людской натуры. Хрыстос – гэта і прыклад да наследавання: "Навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам" (Мц 11, 29), – і аб'ект служэння: "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40). Таму вера заўсёды стымулюе парадкаванне адносін паміж людзьмі.

***– У нашым грамадстве шмат людзей у патрэбе, якія разлічваюць на дапамогу іншых, на іх добрыя сэрцы, і пры гэтым не ўсведамляюць, што часта цяжкія жыццёвыя абставіны, у якіх апынуліся, – гэта вынік іх бяздзейнасці. Ці варта дабрачынным арганізацыям не толькі аказваць адрасную дапамогу, але і мабілізаваць да самадапамогі?***

– Сапраўды, дзейсная дапамога прадугледжвае не столькі вырашэнне за чалавека яго жыццёвых праблем, колькі падтрымку на гэтым шляху. Тут сітуацыі могуць быць вельмі рознымі, аднак прынцып падараванай "вудачкі" замест "налоўленай рыбы" заўсёды прыносіць лепшыя вынікі. Хіба што, чалавек не здольны парадзіць сабе ў жыцці або не хоча гэтага. Здараюцца і такія сітуацыі. У любым выпадку нельга абыякава прайсці міма чалавека, а аказваючы дапамогу, паспрабаваць абудзіць у ім жаданне ўзяць адказнасць за сваё жыццё. Гэта будзе ўжо духоўны бок дабрачыннасці, якая разам з матэрыяльнай дапамогай павінна быць сродкам евангелізацыі, дзякуючы чаму патрабуючы чалавек здолее адкрыць для сябе Бога як нашага міласэрнага Айца.

*Кінга Красіцкая*

---

## Слова для жыцця

*Папа Францішак*



*Пасля саракадзённага посту Хрыста тройчы спакушаў д'ябал. Спачатку ён заклікаў Езуса перамяніць камень у хлеб; затым паказаў з вышыні ўсе валадарствы свету і паабяцаў зрабіць магутным і слаўным Месіяй; потым прывёў на самую высокую кропку іерусалімскай святыні і заклікаў Езуса кінуцца ўніз, каб яскравым чынам прадэманстраваць сваю Боскую сілу. Гэтыя тры спакусы ўказваюць на тры шляхі, якія свет заўсёды прапануе, абяцаючы вялікі поспех, тры шляхі, каб нас падмануць: прагу валодання, чалавечую славу і інструменталізацыю Бога.*

*Першая: шлях прагі валодання. Д'ябал заўсёды трымаецца гэтай падступнай логікі. Ён пачынае з натуральнай і законнай патрэбы ў харчаванні, жыцці, рэалізацыі сябе, дасягненні шчасця, каб падштурхнуць нас да веры ў тое, што ўсё гэта магчыма без Бога, больш за тое – насуперак Яму. Але Езус не пагаджаецца з ім, кажучы: "Не хлебам адным будзе жыць чалавек" (Лк 4, 4).*

*Другая спакуса: шлях чалавечай славы. Д'ябал кажа: "Калі Ты паклонішся мне, уся [улада] будзе Тваёй" (Лк 4, 7). Можна згубіць асабістую годнасць, дазволіць сапсаваць сябе залатым цяльцом, поспехам і ўладай, каб дасягнуць самасцвярджэння. Так мы ап'яняемся пустой радасцю, якая хутка мінае. Таму Езус адказвае: "Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць" (Лк 4, 8).*

*Трэцяя спакуса: інструменталізацыя Бога дзеля сваёй карысці. Д'яблу, які, цытуючы Святое Пісанне, заклікаў Езуса патрабаваць ад Усявышняга надзвычайных цудаў, Хрыстос зноў супрацьпастаўляе цвёрдае рашэнне заставацца пакорным і даверлівым да Айца: "Сказана: не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго" (Лк 4, 12). Такім чынам Ён адхіляе, магчыма, самую вытанчаную спакусу: "трымаць Бога на нашым баку", просячы ад ласках, якія на самой справе патрэбны, каб задаволіць сваю пыху.*

*Гэтыя шляхі ўяўляюць сабой ілюзію, што прынясуць поспех і шчасце. У рэчаіснасці яны зусім чужыя таму, як дзейнічае Бог. Больш за тое, яны аддаляюць нас ад Яго, таму што з'яўляюцца справамі сатаны. Езус, асабіста змагаючыся з гэтымі выпрабаваннямі, тройчы перамагае іх, каб цалкам трымацца задумы Айца. Ён указвае нам сродкі для гэтага: духоўнае жыццё, вера ў Бога, упэўненасць у тым, што Ён нас любіць, што з'яўляецца Айцом. З гэтай упэўненасцю пераможам кожную спакусу. І, вельмі важна, Езус не ўступае ў дыялог са спакусіцелем, але адказвае на яго выклікі з дапамогай Божага слова. Гэта вучыць нас таму, што з д'яблам не вядзецца дыялог.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі" ў Ватыкане, 10.03.2019*




*◆ Папа Францішак сустрэўся з Расэлам Нэльсанам, прэзідэнтам Царквы Езуса Хрыста Святых апошніх дзён (мармоны). Спатканне адбылося напярэдадні асвячэння новай вялікай святыні гэтай канфесіі ў Рыме (Італія). Апостальская Сталіца не падае ніякіх падрабязнасцей падзеі, а самі мармоны абʼявілі, што гэта была першая сустрэча іх кіраўніка са Святым Айцом. У размове яны закранулі тэму рэлігійнай свабоды, справы сямʼі, моладзі і інш.*

*◆ У Іспаніі адбылася цырымонія беатыфікацыі 9-ці семінарыстаў. Першыя 6 з іх загінулі падчас т. зв. кастрычніцкай рэвалюцыі ў Астурыі ў 1934 годзе, іншыя 3 былі расстраляны падчас грамадзянскай вайны ў 1936–1937 гадах. Усе яны рыхтаваліся да святарства ў семінарыі ў Аўеда. Урачыстасць ад імя Папы ўзначаліў прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кард. Анджэла Бечу.*

*◆ Канферэнцыя біскупаў Германіі пастанавіла на працягу бліжэйшых 4-ох гадоў павялічыць колькасць жанчын на кіруючых пасадах у дыяцэзіях так, каб жаночы пол складаў адну трэць кадраў. Паводле вынікаў даследавання, у 6-ці з 27-мі дыяцэзіяльных адміністрацый наогул няма ні адной жанчыны на вышэйшых узроўнях кіравання, у 11-ці працуе адна жанчына, яшчэ ў 5-ці – дзве, а ў астатніх – 3-5 жанчын. Такім чынам нямецкія біскупы падтрымалі праграму Асацыяцыі св. Хільдэгарды, каб увесці больш жанчын на кіруючыя пасады ў Касцёле.*

*◆ Цэнтральнае статыстычнае бюро Касцёла выпусціла чарговы Папскі штогоднік 2019 (Annuario Pontificio 2019). З яго матэрыялаў вынікае, што католікі складаюць каля 17,7% ад агульнай колькасці насельніцтва нашай планеты. У параўнанні з 2016 годам колькасць вернікаў павялічылася на 1,1%. На 0,5% павялічылася лічба людзей, занятых у розных формах апостальства ў Касцёле (духавенства, манахіні, сталыя дыяканы, катэхеты і інш.). У той жа час упершыню з 2010 года выяўлена зніжэнне агульнай колькасці святароў: у 2017 годзе іх было 414 582, у той час як годам раней – 414 969. Тым не менш, узрасла колькасць біскупаў, сталых дыяканаў, свецкіх місіянераў і катэхетаў.*

*◆ Адышоў у вечнасць знакаміты акцёр Люк Пэры. Мала хто ведае, што кумір шматлікіх падлеткаў, вядомы асабліва роляй Дылана Макея ў "Бэверлі Хілз, 90210", прымаў удзел таксама ў хрысціянскіх праектах, сярод якіх, між іншым, Біблія ў выглядзе аўдыёкнігі. У гэтым праекце былі задзейнічаны больш за 500 акцёраў, якія ўдзельнічалі ў супольным чытанні Святога Пісання з падзелам на ролі. Яго рэалізацыя заняла 4 гады. Было запісана каля 98-мі гадзін аўдыёматэрыялу.*

*ekai.pl; niedziela.pl; aleteia.org*

# ПОСТ – ШАНС, КАБ ЖЫЦЬ ПАЎНЕЙ

Вы, магчыма, бачылі ў інтэрнэце відэаролік пра дзядулю, які на святы застаўся адзін. Ён вельмі жадаў, каб да яго прыехалі дзеці і ўнукі, аднак яны ніколі не мелі часу. Дзядуля атрымліваў ад іх паштоўкі, фотаздымкі, тэлефонныя званкі, аднак бачыліся яны ўсё ж рэдка. Тады ён вырашыў выслаць родным паведамленне пра сваю смерць, бо на пахаванне напэўна прыбылі б. І меў рацыю. Уся сямʼя – сумная і заплаканая – прыехала... і вельмі ўсцешылася, калі аказалася, што дзядуля жывы і святы яны правядуць усе разам. Толькі перад абліччам смерці людзі зразумелі, як многа губляюць.

У гэтым відэароліку ўсё скончылася чуллівым і мілым хэпіэндам. Аднак у рэчаіснасці, на жаль, неаднойчы адбываецца было як мага зручней, як мага якасней, каб мець самае лепшае для сябе і сваіх блізкіх? Гэта азначае вучыцца нанова смакаваць жыццё. Сучасны чалавек так некуды спяшаецца, здабывае столькі ўражанняў і вопыту, што не заўсёды можа іх добра перажыць, рассмакаваць, пераварыць. "Заглытвае" жыццё, і з-за гэтага застаецца галодны. Каб насыціцца чымсьці, неабходны час і ўвага, абмежаванне вялікай колькасці стымулаў, якія ўвесь час адцягваюць увагу і не дазваляюць засяродзіцца на самым важным – уласным жыцці!

Магчыма, Вам здаецца, што нешта не так – гаворка пра пост, а тут смакаванне, пераварванне, насычэнне... Менавіта ў гэтым справа. Праз хвіліну я ўсё растлумачу.

Пост – гэта ўстрымання можна ахвяраваць за сябе і іншых, які дазваляе Богу здзейсніць у нас надзвычайныя рэчы. І ўсё для таго, каб жыць паўней.

Пост складаецца з 3-ох элементаў: устрымання, малітвы і міласціны. Ён не зʼяўляецца нагодай для пахудзення ці трэніроўкі сілы волі, хоць усё гэта можа стаць пабочным рэзультатам. Пост – гэта час, каб аднавіць сваё сэрца і жыццё, пазбавіцца ад таго, што духоўна абцяжарвае, каб быць вольным, больш спакойным, шчаслівым. Ці ўстрыманне датычыць толькі ежы? Не. Аднак варта звярнуць увагу на гэты аспект свайго жыцця, паколькі тое, што ядзім ці чаго не ядзім, усё ж таксама нас фарміруе. Трэба падумаць, ці ёсць якая-небудзь страва або напой, адсутнасць якіх выводзіць з раўнавагі? Можа, успрымаць жыццё і самых сябе такімі, якія мы ёсць на самой справе, а не такімі, якімі хочам паказацца ў сацыяльных сетках. Вучыць нас праўдзе, пакорнасці і любові.

А што з малітвай? Вялікі пост – гэта час паглыбленага перажывання Крыжовага шляху, Песняў жальбы, адарацыі Крыжа, каб зноў прыгадаць сабе пра вялікую любоў Бога, якую не абмяжоўвае людская слабасць. Гэта магчымасць "карміцца" міласэрнасцю Усемагутнага, умацоўваць сэрца праз трыванне з Ім. Малітва зʼяўляецца сустрэчай з Умілаваным. Падобна, як натуральнымі для нас зʼяўляюцца размовы з блізкімі, так малітва павінна стаць нашым штодзённым сродкам дыялогу з Богам. Размова можа быць простай і лёгкай ці складанай і патрабуючай. да бліжняга. Аднак ці толькі аб грашах гаворка? Адназначна не. Сапраўдная міласціна – гэта даванне чагосьці, што патрэбнае, цэннае. Падобная ахвяра ператварае лепту ў дар сэрца, паглыбляе душу, умацоўвае любоў. Часта нашмат больш патрабуючай міласцінай зʼяўляецца для нас час, прысвечаны блізкай асобе ці таму, каго не любім – калі маглі б займацца тым, на што маем ахвоту, або проста адпачываць. Аднак менавіта такія хвіліны сведчаць пра тое, што гэты другі чалавек важны для мяне. Сапраўдная міласціна для нас – забеганых – значыць адшуканне некалькіх хвілін для родных і сяброў, каб задаць ім самыя звычайныя пытанні: як жывуць, чаму радуюцца, што іх засмучае, якія моманты лічаць найлепшымі. Часам адказы







інакш. Мы часта жывём у настолькі хуткім тэмпе, што на сапраўды важныя справы не хапае часу, таму што ўвесь час кудысьці бяжым, штосьці мусім зрабіць, камусьці патэлефанаваць, напісаць, штосьці вырашыць... І толькі такі складаны досвед, як цяжкая хвароба ці смерць блізкай асобы, прымушаюць нарэшце спыніцца ў гэтым руху. Але тады ўжо занадта позна, каб нешта змяніць.

Бог дае людзям Вялікі пост менавіта для таго, каб мы хоць трохі запаволіліся, спыніліся, не чакаючы трагічных падзей. Гэты перыяд зʼяўляецца шансам – добрым часам для таго, каб зразумець, якія сапраўды важныя рэчы выпадаюць з-пад нашай увагі.

Пост – але як? Што ўвогуле значыць посціць сёння, калі кожны імкнецца да таго, каб манне ад чагосьці на працягу некаторага часу, каб стварыць у душы больш прасторы для Бога, сябе і іншага чалавека, каб глыбей перажыць сустрэчу з Панам, з самім сабой і бліжнімі, каб цешыцца жыццём, дробязямі, якіх у паўсядзённасці можам не заўважаць. Пост патрэбен для таго, каб жыць паўней! Не верыце? Тады прапаную паспрабаваць. Трэба хаця б на некаторы час адмовіцца ад пэўнай дробнай рэчы, якой карыстаемся штодзённа і якая прыносіць задавальненне. Гэта можа быць кава з раніцы, прыгатаванне любімай стравы, хобі – што заўгодна – у чыёйсьці інтэнцыі. Паглядзіце, як Вас усцешыць тое дзеянне пасля нявялікага ўстрымання ад яго! Не гаворачы ўжо пра духоўны дар для асобы, у інтэнцыі якой гэта зробіце.

Пост – гэта дар, які менавіта гэта патрабуе ад нас посту? Памятайма, што спажыванне ці не спажыванне чагосьці не павінна намі кіраваць. Ёсць нагода ўстрымацца таксама ад электронных сродкаў масавай інфармацыі, ад тэлефона, ад "запойных" пакупак, прагляду фільмаў, чытання любімых дэтэктываў... Гэты спіс можна працягваць да бясконцасці. Запрашаю дадаць туды ўласныя прывязанасці.

Нельга забывацца, што пост патрэбен для таго, каб вызваляць і весці да паўнаты жыцця – да паўнейшага быцця з Богам, з самім сабой і з іншым чалавекам. Да жыцця тут і цяпер, а не ў віртуальным свеце, да сапраўднай любові і сяброўства, а не той, што з інтэрнэту, да захаплення бягучай хвілінай, а не шчоўкання мноства фатаграфій, каб падзяліцца імі ў сеціве... Пост вучыць нас

Часам мы здольны толькі маўчаць... І Бог чакае, дае час, каб маглі напоўніцца Ім, пакідаючы ўсё тое, што запаўняе нас, але не можа насыціць. Разважанне над Божым словам, адарацыя, Ружанец, Крыжовы шлях – можна выбраць тую з форм, якая бліжэй за ўсё, больш рэальная.

За якую малітву вазьмуся падчас гэтага Вялікага посту, каб Пан мог змяняць, аздараўляць і напаўняць любоўю маю душу, прагнучую чуласці і блізкасці – сапраўднай, бескарыслівай, бясконцай?

Дзіўнае, даўняе слова "міласціна"... Цытуючы са слоўніка польскай мовы, гэта "лепта, ахвяраваная ўбогаму як міласэрны ўчынак". Інакш кажучы, міласціну можна акрэсліць як удзяленне дапамогі і падтрымкі бедней, патрабуючай асобе, праз якую хрысціянін выражае сваю любоў ўражваюць...

Падсумоўваючы, можам сказаць, што пост не мусім перажываць як журбу ці пакуту, трэніроўку сілы волі ці дыету. Пост – гэта шанс на распачацце больш поўнага, глыбокага, шчаслівага жыцця. Жыцця, якое будзем рассмакоўваць, пераварваць. Жыцця, якое нас насыціць – у адносінах з Богам, з самім сабой і з іншым чалавекам. Ці выкарыстаем атрыманы шанс, перш чым стане позна?

Папросім на гэтым шляху да паўнейшага жыцця і большай любові аб апецы і спадарожнічанні Маці Божай – найцудоўнейшай, бо Яна поўнасцю належыць Усемагутнаму. Марыя ўжо прайшла шлях да паўнаты, таму правядзе нас да Хрыста найлепшай сцежкай.

*С. Зоя Дамброўская ISSM*

# Я НЕ Ў ЦЭНТРЫ СВЕТУ... МЕДЫТАЦЫЯ НАД НАВЯРТАННЕМ

**Вялікі пост у жыцці каталіка – гэта заўсёды асаблівы час. Адны чакаюць яго з надзеяй, прагнучы змяніць сваё жыццё, пачаць штосьці ад пачатку. Іншыя засмучаюцца з-за яго, бо ў касцёлах стане сумна, панура, а ксяндзы будуць нястомна прыгадваць аб неабходнасці навяртання. Многія людзі перажываюць дадзены перыяд вельмі асабіста і глыбока. Важнае месца ў ім займаюць пакаянныя практыкі, набажэнствы Крыжовага шляху і Песень жальбы, велікапосныя рэкалекцыі. Аднак усё гэта мае адну мэту: годная падрыхтоўка да найважнейшага для хрысціян свята – урачыстасці Уваскрасення Пана.**

На пачатку Вялікага посту, у Папяльцовую сераду, падчас пасыпання галоў попелам святар прамаўляў словы з Евангелля паводле св. Марка: "Навяртайцеся і верце ў Евангелле" (Мк 1, 15). Гэта першае выказванне Езуса ў прыведзеным Евангеллі, якое адначасова распачынае і змяшчае ў сабе ўсю публічную дзейнасць Хрыста. Менавіта вяртанне да Пана з'яўляецца асноўным вымярэннем Вялікага посту.



Гісторыя ведае шмат прыкладаў эфектных навяртанняў. Самае вядомае з іх апісана ў Святым Пісанні – навяртанне апостала Паўла. Сёння ўсё часцей гавораць пра вяртанне да Пана вядомых акцёраў, музыкантаў, палітыкаў, закаранелых атэістаў. Калі чуем падобныя гісторыі, дзіву даёмся. Як магчыма, што чалавек, які не верыў у Хрыста, раптам змяняе сваё жыццё і становіцца адданым вызнаўцам Збаўцы? Прычынай такіх змен можа быць, напрыклад, сведчанне жыцця веруючай асобы, выпадкова прачытаная рэлігійная кніга, размова, падзея... Аднак варта памятаць, што кожнае навяртанне – як асобы, што вызнае веру ў Бога, так і яшчэ няверуючай – адбываецца па ініцыятыве Усемагутнага, з'яўляецца дарам і ласкай.

Кожны хрысціянін пакліканы да пастаяннага навяртання. Гэта не аднаразовы акт, а працэс нястомнага звароту да Бога, да поўнага з'яднання з Ім. Гэта асаблівая дарога, пачаткам якой з'яўляецца свядомае рашэнне парваць з грахом і змяніць сваё жыццё. Такая пастанова ўзнікае ў чалавека ўнутры і заключаецца ва ўсведамленні, прызнанні свайго граху, пачуцці жалю і раскаяння за ўчыненае зло. Любячы Бог, што аддаў свайго Сына на муку і смерць за людзей, можа і хоча прабачыць чалавеку, які просіць аб гэтым, нават самыя горшыя грахі. Усведамленне гэтага вядзе да раскаяння ў сэрцы, схіляе да пакаяння і ўзнагароджання за грахі. Знешне навяртанне выражаецца ў змене пастаявы і дзеянняў. Малітва, пост і міласціна, да якіх асабліва заахвочвае Касцёл у час Вялікага посту, з'яўляюцца знакам навяртання ў адносінах да Бога, да сябе і да іншых людзей.

Раней людзі былі перакананы, што Зямля з'яўляецца цэнтрам Сусвету, а Сонца і ўсе планеты круцяцца вакол яе. Толькі ў XVI стагоддзі Мікалай Капернік, дзякуючы свайму навуковаму адкрыццю, змяніў пануючае меркаванне. Аднак нават гэтая змена не адбылася адразу, праходзіла паступова. Навяртанне з'яўляецца менавіта такім "капернікаўскім пераваротам", зменай мыслення, пастаянным усведамленнем таго, што не ўсё варочаецца вакол мяне, што цэнтрам майго жыцця з'яўляецца Бог – сапраўднае Сонца.

Мы часта адчуваем супраціўленне і цяжкасці, перш чым ступіць на шлях навяртання, увесь час перажываем падзенні, якія становяцца прычынай нашага расчаравання. Не адной чы гэта звязана з адсутнасцю жадання змяніць сваё жыццё, напрыклад, з неахвотай паспрабаваць выйсці з якой-небудзь залежнасці. Прычынай гэтага з'яўляецца закрыццё на ласку Бога, які заўсёды хоча весці нас да святасці.

Касцёл дае некалькі падказак адносна таго, што трэба рабіць, каб вытрываць на шляху пастаяннага навяртання. Сістэматычная малітва дазваляе знайсці сілы для змены свайго жыцця і распазнання сфер, якія патрабуюць гэтай змены. Чытанне Бібліі наблізіць вучэнне Езуса і ўмацоўвае веру. Прыняцце святых сакрамантаў адорвае адпаведнымі ласкамі, а таксама становіцца знакам пакаяння і паяднання. Асаблівай увагі заслугоўвае сакрамант споведзі, які называюць таксама сакрамантам навяртання. Менавіта дзякуючы добра падрыхтаванай шчырай споведзі вельмі канкрэтна адбываецца з'яднанне чалавека з Богам.

Такім чынам, можам сцвярджаць, што працэс навяртання трывае ўсё жыццё і патрабуе ад нас многіх ахвяр. Прыняць гэтую дарогу і застацца на ёй без сумнення дапамагае ўсведамленне таго, што мэтай дадзенага шляху з'яўляецца трыванне побач з любячым Панам, а як вынік – вечнае жыццё ў Небе.

*Бр. Максім Лабкоў CSsR*

# LECTIO BREVIS: СПОВЕДЗЬ

Споведзь – адзін з 7-мі сакрамантаў Каталіцкага Касцёла. Сакрамант навяртання, сакрамант пакаяння, сакрамант прабачэння, сакрамант паяднання – усе гэтыя сінонімы з'яўляюцца комплекснымі складнікамі споведзі, з чым падрабязна можна азнаёміцца ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла (другой па важнасці кнізе пасля Святога Пісання ў хрысціян).

Для ўдзелу і прыняцця сакраманту пакаяння неабходна, перш за ўсё, быць у Першай св. Камуніі, што здзяйсняецца чалавекам, які дасягнуў узросту распазнання цяжкіх грахоў і ўсведамляе іх у сябе (параўн. ККП кан. 989), а таксама выканаць дзеянні пакаяння, захоўваючы 5 умоў добрай споведзі.

**Дзеянні пакаяння і 5 умоў добрай споведзі:**

**1. Рахунак сумлення.** Рахунак сумлення – гэта разгляд сваёй маральнасці (учынкаў, слоў, думак, абавязкаў, духоўнага натхнення) у святле Божага слова, што практычна селекцыянавана ў кароткім катэхізісе. Яго складаюць: Дзесяць Божых запаведзей; Пяць касцёльных наказаў; Сем галоўных грахоў; Грахі супраць Святога Духа; Грахі, якія наклікаюць Божую помсту; Грахі іншых па нашай віне; Найважнейшыя хрысціянскія ўчынкі; Учынкі міласэрнасці для душы бліжняга; Учынкі міласэрнасці для цела бліжняга; Тэалагічныя цноты; Кардынальныя цноты; Евангельскія парады.

**2. Шчырая скруха за грахі.** Скруха – гэта душэўны боль і пагарда да здзейсненага граху. Яна заключаецца ў прызнанні праўды пра самога сябе і свае ўчынкі (параўн. ККК 1451).

** Скруха з любові да Бога называецца дасканалай скрухай (параўн. ККК 1452). Скруха з усведамлення агіднасці граху або са страху перад вечным праклёнам ці іншымі пакараннямі, якія могуць напаткаць грэшніка, называецца недасканалай. Тым не менш, яна спрыяе таму, каб атрымаць прабачэнне цяжкіх грахоў у сакраманце пакаяння (параўн. ККК 1453).*

**3. Цвёрды намер выправіцца.** З'яўляецца дабравольным, свядомым і канкрэтным рашэннем не грашыць больш у будучыні (параўн. ККК 1451).

** Калі гэтага намеру няма або не можа быць (напрыклад, вернік знаходзіцца ў сужыцці з кімсьці, жыве без сакраманту шлюбу), сакрамант пакаяння становіцца несапраўдным, а далейшае прыняцце Камуніі цягне за сабой смяротны грэх блюзнерства.*

**4. Шчырая споведзь.** Складае асноўную частку сакраманту. Вернік павінен пералічыць усе смяротныя грахі, якія ён усведамляе ў сябе пасля сур'ёзнага рахунку сумлення (параўн. ККК 1456).

** Тыя, хто свядома ўтойвае якіясьці грахі, робяць гэты сакрамант несапраўдным, а далейшае прыняцце імі Камуніі цягне за сабой смяротны грэх блюзнерства.*

**5. Кампенсацыя за грахі Богу і бліжняму.** Нашы грахі наносяць урон Богу і бліжняму. Адпушчэнне здымае грэх, але не выпраўляе непарадку, выкліканага грахом (ККК 1459).

** Пакута (або кампенсацыя за грахі Богу), якую ўскладае святар, павінна адпавядаць цяжкасці і прыродзе здзейсненых грахоў. Яна можа заключацца ў малітве, у прынашэнні, у справах міласэрнасці, у служэнні бліжняму, у дабравольных пазбаўленнях, у ахвярах, а галоўнае – у цярплівым прыняцці Крыжа (такая пакута дапамагае прыпадобніцца да Хрыста, які адкупіў усе нашы грахі раз і назаўсёды) (ККК 1460). Трэба таксама зрабіць усё магчымае, каб пакрыць урон бліжняму (напрыклад: вярнуць скрадзеныя рэчы, аднавіць рэпутацыю абгаворанага чалавека, загладзіць крыўды). Гэтага патрабуе простая справядлівасць (параўн. ККК 1459).*

**Дзеянні падчас споведзі ў канфесіянале:**

* Падысці і стаць на калені ля канфесіянала, звярнуцца да святара словамі хрысціянскага прывітання: *"Пахвалёны Езус Хрыстус"*. (Уся споведзь адбываецца шэптам).
* Перахрысціцца: *"У імя Айца і Сына, і Духа Святога. Амэн"*.
* Назваць свой узрост і сацыяльны статус. Напрыклад: *"Мне 20 гадоў, я студэнт, нежанаты"*.
* Сказаць, як даўно адбылася апошняя споведзь. Напрыклад: *"Апошні раз спавядаўся 2 месяцы таму"*.
* Сказаць, ці выканана пакута з апошняй споведзі. Напрыклад: *"Пакуту выканаў"*.
* Пералічыць здзейсненыя грахі. Напрыклад: *"Хацеў бы прызнацца ў здзейсненых мною грахах"* (пералічыць). Абавязкова назваць усе смяротныя грахі, колькасць кожнага здзейсненага граху і яго абставіны. Важна называць усе грахі, у тым ліку і лёгкія.
* Паабяцаць выправіцца і больш не грашыць: *"Больш грахоў не памятаю, за здзейсненае шчыра шкадую і абяцаю выправіцца"*.
* Папрасіць аб пакуце, настаўленні і адпушчэнні грахоў: *"Прашу аб настаўленні, пакуце і адпушчэнні грахоў"*.
* Святар дае практычныя парады, як пазбегнуць граху або супрацьстаяць спакусе. У некаторых выпадках (напрыклад, перадсвяточная споведзь) з прычыны вялікай колькасці жадаючых прыступіць да сакраманту пакаяння гэтага настаўлення можа не быць. Затым святар прызначае пакуту (малітва, прынашэнне, справа міласэрнасці, служэнне бліжняму, дабравольнае пазбаўленне, ахвяра).
* Калі святар прамаўляе словы *"Шкадуй за свае грахі"*, неабходна абудзіць у сабе шчыры жаль за грахі: *"Пане, змілуйся нада мною, грэшным"*.
* Святар прамаўляе формулу адпушчэння грахоў, у канцы якой благаслаўляе, робячы знак крыжа. Неабходна перахрысціцца і адказаць: *"Амэн"*.
* Святар развітваецца: *"Ідзі ў супакоі Хрыста"* (словы могуць быць іншыя). Неабходна адказаць: *"Дзякую Пану Богу"*.
* Устаць і пацалаваць стулу.

Да сакраманту пакаяння неабходна прыступаць прынамсі раз у год (параўн. ККК 1457).

*Падрыхтаваў Аляксей Гальчэня*







### Крыжовы шлях анлайн

***Усе, хто не мае магчымасці быць у касцёле, можа далучыцца да велікапоснага набажэнства праз інтэрнэт.***

*Спецыяльна для хворых, а таксама тых вернікаў, якія па важных прычынах не ўдзельнічаюць у набажэнствах Крыжовага шляху ў сваіх парафіях, каталіцкі партал Catholic.by прапануе прамыя трансляцыі з парафіі св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску. Яны праходзяць кожную пятніцу на працягу Вялікага посту ў 19.00.*




### Паніхіда па бяздомных

***Адмысловую службу ў Кіеве (Украіна) арганізавала супольнасць св. Эгідзія.***

*Падчас паніхіды ўспомнілі людзей, якія жылі на вуліцы і загінулі ў маразы. Пасля госці, якіх сабралася больш за сотню, былі запрошаны на абед.*

*Супольнасць св. Эгідзія – гэта міжнародная арганізацыя, якая існуе ў больш чым 70-ці краінах свету. Вядомая сваёй міратворчай і гуманітарнай дзейнасцю. Дапамагае бяздомным, бежанцам, пажылым людзям, дзецям з малазабяспечаных сем'яў.*




### Святы Айцец узнагароджаны за мір

***Папа Францішак і Вялікі імам Аль-Азхар Ахмед эль-Таеб сталі першымі лаўрэатамі Прэміі чалавечага братэрства (Human Fraternity Award), заснаванай эмірам Дубая Мухамедам бэн Рашыдам. Узнагарода прызначана за намаганні па забеспячэнні міру ў свеце.***

*Пантыфік, Вялікі імам, наследны прынц Абу-Дабі і эмір Дубая пакінулі свае подпісы на вуглавых камянях пад будаўніцтва новага касцёла св. Францішка і новай мячэці імя Вялікага імама Ахмеда эль-Таеба ў Абу-Дабі. Святыні павінны стаць сімваламі папскага візіту ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. "Яны будуць служыць у якасці маякоў, якія ахоўваюць каштоўнасць цярпімасці, маральнай праўды і братэрства паміж людзьмі ў нашай краіне", – выказаўся шэйх Мухамед бэн Заід.*



## 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ СВЯТАСЦІ ЖЫЦЦЯ

# БЯСПЛОДДЗЕ – ГЭТА НЕ ПРЫСУД

*Такі страшны дыягназ, як бясплоддзе, сёння лечыцца. Але нават тады, калі медыкі сцвярджаюць, што шансаў нарадзіць дзіця няма, трэба памятаць: усё ў руках Бога.*

### БЯЗДЗЕТНЫЯ СЕМ'І

Боль ад немагчымасці зачаць дзіця сужэнцы, як правіла, перажываюць асабіста. Некаторымі дадзеная рэчаіснасць успрымаецца як непаўнавартаснасць. Пра далікатную праблему не прынята распавядаць у грамадстве, а калі і даводзіцца, то напаўголас, крыху збянтэжана, з засмучэннем. Па гэтай прычыне можа паказацца, што бясплоддзе сустракаецца ў сем'ях даволі рэдка. Насамрэч колькасць пар з такім дыягназам з часам толькі расце. Згодна з апошнімі данымі медыкаў, бясплоддзе закранае каля 16% сужэнцаў у Беларусі. І гэта не зусім дакладная лічба, улічваючы той факт, што многія пары не рэгіструюць шлюб, а таму не трапляюць у афіцыйную статыстыку.

У пэўных выпадках дыягназ бясплоддзе – гэта не прысуд. Найноўшыя рэпрадуктыўныя тэхналогіі дазваляюць выявіць прычыны, якія робяць немагчымым зачацце, і дапамагчы сужэнцам у наступленні доўгачаканай цяжарнасці. Аднак многія сямейныя пары затрачваюць на вырашэнне праблемы некалькі, а то і дзясятак гадоў, а лячэнне так і не прыносіць жаданых вынікаў.

У такім разе ў людзей часта апускаюцца рукі. Яны звяртаюцца да Бога, у якога, можа, і не верылі да гэтага часу. Хочацца зразумець "для чаго ўсё гэта" і "ці не губляць надзею", бо яна ўсё ж дзесьці глыбока ў душы жыве.

### ДОБРЫ БОГ

– Жыццё – гэта вялікая таямніца і дар, бязвыплатна атрыманы ад Стварыцеля. Мы не заўсёды можам зразумець, навошта Бог яго дае ці чаму ўстрымліваецца ад давання, – разважае кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч, кусташ дыяцэзіяльнага санктуарыя Пана Езуса Журботнага ў Росі. – Безумоўна, могуць існаваць перашкоды з боку чалавека на прыняцце дару жыцця, таму нельга сцвярджаць, што калі пара не мае дзяцей, то такая на тое Божая воля. Разам з тым, часам Усемагутны не адорвае новым жыццём, каб сужэнцы паклапаціліся аб пакінутым дзіцяці праз усынаўленне.

Вядома не адна гісторыя, калі бясплодная пара брала на выхаванне дзіця, пасля чаго Бог адорваў яе сваімі дзецьмі. Такім чынам, на пытанне "для чаго?" Ён даваў ясны адказ: каб ашчаслівіць адзінокае дзіця, якое засталося без бацькоўскай апекі.

– Я з'яўляюся сведкам многіх выпадкаў, калі Бог адорваў цудам новага жыцця пасля пазбаўлення ад перашкод, інакш кажучы – пасля навяртання мужа, жонкі ці абодвух сужэнцаў, – зазначае святар. – Адным з першых сведчанняў быў досвед пары, якая аб'ездзіла многія спецыялізаваныя клінікі ў краіне і за мяжой, выдаткавала вялікую колькасць матэрыяльных сродкаў на розныя даследаванні, працэдуры, аднак урачы разводзілі рукамі, бо не маглі ўстанавіць, што з'яўляецца прычынай немагчымасці зачацця. Пасля шматлікіх малітваў і перажыцця рэкалекцый з а. Руфусам Перэйра ў нашым санктуарыі ў 2009 годзе ў іх нарадзілася дачушка Аляксандра, праз год – сын Натанаэль, а яшчэ праз год – чарговая дзяўчынка, Рыта. Можна падумаць, што гэта ўжо канец прыгожай гісторыі. Аднак Бог заўсёды адорвае шчодра, ніколі не шкадуе сваёй ласкі. У 2018 годзе ў гэтай сям'і на свет з'явілася 4-ае дзіця – Клара. І я магу запэўніць, што вельмі шмат цудоўных гісторый адбываецца пасля малітвы ў нашым санктуарыі, пасля рэкалекцый, якія тут праводзяцца. Летась падчас святкавання ў Росі 400-ай гадавіны з моманту першага цуду чарговыя 2 сям'і перад фігурай Езуса Журботнага ўсклалі воты ў форме 2-ух залатых сэрцаў і аднаго сярэбранага ў знак удзячнасці Богу за цуд атрыманай ласкі новага жыцця.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З ДАЎЦАМ ЖЫЦЦЯ

Хтосьці моліцца аб дары бацькоўства дома ўначы, хтосьці збівае калені ў святыні, а хтосьці шукае падтрымкі ў Касцёле разам з тымі, каго хвалюе тая ж праблема. Многія будучыя маці ідуць у пілігрымцы да Маці Божай у дыяцэзіяльныя санктуарыі ў Капцёўку і Баруны, каб у намоленых месцах выпрасіць ласку нараджэння дзіцяці. Не так даўно культ Маці Божай Новага Жыцця распачаты ва Уселюбе (дэканат Навагрудак). Там з'явілася фігура Найсвяцейшай Панны Марыі ў бласлаўлёным стане. Для сужэнцаў, якія прагнуць мець патомства, на рэгулярнай аснове адбываюцца рэкалекцыі ў Росі. Там сямейныя пары імкнуцца распазнаць волю Найвышэйшага... І такіх "сцежак" да Даўцы Жыцця, насамрэч, вельмі шмат. Тут кожны выбірае сваю.

Немалаважнай для бяздзетных сужэнцаў з'яўляецца падтрымка акружэння з боку родных, блізкіх, сяброў. У гэтай справе ім можа дапамагчы нават незнаёмы, але нераўнадушны вернік. Штогод у свята Звеставання Пана Каталіцкі Касцёл ахвяруе малітвы, пост і ўчынкі міласэрнасці ў інтэнцыі кожнага зачатага чалавечага жыцця. Такім чынам, прадстаўляецца ўрачыстая нагода падзякаваць Айцу за дар свайго жыцця і выпрасіць яго для тых, хто з заміраннем сэрца чакае і гатовы прыняць у сваю сям'ю маленькае Божае стварэнне.

*Ангеліна Пакачайла*

# ДЛЯ БОГА НЯМА НІЧОГА НЕМАГЧЫМАГА






*Нашаму сужэнству ўжо амаль 10 гадоў. Мы заўсёды марылі пра вялікую сям'ю, аднак на працягу доўгага часу не маглі зачаць дзіця. Занепакоеныя, звярнуліся да ўрачоў. Шматлікія аналізы і абследаванні не дапамагалі выстэвеліць прычыну бясплоддзя. Штомесяц мы з заміраннем сэрца чакалі наступлення цяжарнасці, а яна ўсё не надыходзіла. Медыкі раілі рабіць ЭКА, пры тым, што яўных перашкод для натуральнага апладнення ўстаноўлена не было. Мы супраць такога метаду, таму не гублялі надзеі, што ўсё будзе добра.*

*Кожны год мы хадзілі ў посную пілігрымку ў Будслаў да Маці Божай з інтэнцыяй аб дары патомства. Там пазнаёміліся са спадарыняй Ганнай, удзельніцай супольнасці "Каштоўная жамчужына". Яна параіла з'ездзіць у Рось да цудатворнай фігуры Езуса Журботнага.*

*У ліпені 2012 года мы ўпершыню адправіліся туды. Распавялі святару пра нашу праблему, ён памаліўся над намі каля алтара. У гэты ж час пад назіраннем медыкаў я прымала моцнадзейныя гармоны для стымуляцыі авуляцыі. У наступным месяцы мы даведаліся, што наступіла доўгачаканая цяжарнасць. Шчасцю не было межаў! Аднак на 7-ым тыдні цяжарнасць замерла, сэрца дзіцятка так і не забілася... Да 11-га тыдня я бегала па бальніцах у пошуках хоць малейшай надзеі на цуд, але ўрачы як адзін сцвярджалі, што шансаў няма, трэба неадкладна рабіць чыстку. Медыкі патлумачылі здарэнне як "натуральны адбор". Гэта была катастрофа... Наш стан тады было не апісаць словамі. Заставалася толькі прыняць сітуацыю і са спадзяваннем глядзець у будучыню.*

*Праз некалькі месяцаў пасля аперацыі пачаўся чарговы кругазварот – УГД, аналізы, медыкаменты, тэсты – і трапяткое чаканне. Але зноў і зноў нашым марам не наканавана было спраўдзіцца.*

*У маі 2014 года мне зрабілі дыягнастычную лапараскапічную аперацыю, у ходзе якой нарэшце высветлілася прычына бясплоддзя – эндаметрыёз і непраходнасць правай маточнай трубы. Пасля выдалення пашкоджаных ачагоў, здавалася, усё павінна было наладзіцца. Аднак праз паўгода ў левым яечніку з'явілася эндаметрыёзная кіста. Такім чынам, шансы зацяжарыць былі зведзены да мінімуму. Але мы працягвалі лячыцца...*

*Я разумела, што час мінае (мне ішоў ужо 32-гі год) і ўсе нашы спробы марныя. Вырашыліся з мужам на яшчэ адну аперацыю па выдаленні кісты. Пастанавілі: калі гэта не дапаможа, возьмем дзіця на выхаванне.*

*Акурат у той час у Мінск прывезлі цудатворную ікону Маці Божай "Замілаванне". Мы з мужам паехалі пакланіцца Марыі ў абразе і папрасіць Яе, каб вымаліла ў Сына для нас ласку бацькоўства. А яшчэ мы даўно хацелі паўторна з'ездзіць у Рось. Перажылі незвычайны час! Запалі тады ў душу словы кс. Чэслава Паўлюкевіча, які сказаў, што калі мы верым, Езус можа дараваць ацаленне, і што ён ведае шматлікія прыклады, якія гэта пацвярджаюць.*

*У кастрычніку 2015 года мы зноў прыехалі ў Рось, каб прыняць удзел у рэкалекцыях для сужэнстваў, якія прагнуць мець патомства. Усе прысутныя разам маліліся перад цудатворнай фігурай Езуса Журботнага. Пасля св. Імшы кожная сямейная пара атрымала індывідуальнае благаслаўленне.*

*Увогуле, пасля візітаў у Рось наша жыццё моцна змянілася. Рэкалекцыі і духоўная літаратура на тэму фізічнага і духоўнага ацалення, якую набылі там, дапамаглі змяніць ранейшыя погляды. З таго часу ў нас заўсёды знаходзіцца час на малітву, чытанне Святога Пісання. Мы навучыліся прабачаць і прасіць прабачэння адзін у аднаго.*

*Мы сталі штодня маліцца аб дары новага жыцця да Марыі ля абраза, які нам падарыла спадарыня Ганна. 15 снежня 2016 года даведаліся, што здарыўся цуд – я зацяжарыла! Шчаслівыя, дзякавалі за гэтую ласку Богу і ўсім людзям, якіх Ён паслаў нам на жыццёвай дарозе. Былі бясконца ўдзячны за малітвы святароў, нашых родных, сяброў і знаёмых, а таксама ўсім ўрачам за сумеражыванне і шчырае жаданне дапамагчы. Мы ўсе разам прайшлі гэты 6-гадовы шлях да зачацця новага жыцця.*

*Сёння ў нас падрастае 2-гадовая дачка Марыя. А яшчэ чакаем Янку, якая хутка павінна з'явіцца на свет. Звяртаемся з просьбай да ўсіх людзей добрай волі, каб памяталі ў малітве пра сем'і, што не маюць дзяцей, але прагнуць іх мець. "Для Бога няма нічога немагчымага" (Лк 1, 37).*

*Святлана і Андрэй Галушкі*

## МАЛІТВА АБ ДАРЫ ПАТОМСТВА

**О Марыя, Маці Новага Жыцця! Пад сваім сэрцам Ты насіла Збаўцу свету. Дзякуючы ласцы нашага Нябеснага Айца Ты спазнала, чым з'яўляецца радасць і боль мацярынства. Ты ведаеш маё імя. Ведаеш пра мае цярпенні і смутак. Мы з мужам вельмі прагнем, каб у нас нарадзілася дзіця. Марыя, я веру, што дзеці прыходзяць у свет па волі Божай. І таму з глыбокай верай і даверам малю Цябе: выпрасі ў Створцы ласку мацярынства для мяне. Амэн.**

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

**Маці Божая Новага Жыцця, маліся за нас.**

НАВІНЫ



## ВЕЛІКАПОСНЫЯ ЗАСЯРОДЖАННІ ДУХАВЕНСТВА

Час Вялікага посту заахвочвае да таго, каб кожны чалавек затрымаўся на хвіліну, паглядзеў на сваё жыццё і захацеў навярнуцца. У многіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі ўжо адбываюцца велікапосныя рэкалекцыі, падчас якіх святары абвяшчаюць Божае слова і заахвочваюць вернікаў зірнуць на свае словы і ўчынкі, а таксама ўвайсці на шлях выпраўлення. У адпаведнай падрыхтоўцы да ўрачыстасці Уваскрасення Пана дапамагаюць вернікам набажэнствы Крыжовага шляху і Песень жальбы.

Духоўныя асобы ўсведамляюць, што гэтае навяртанне неабходна таксама і ім, што патрэбен здаровы позірк на свае штодзённыя абавязкі, на адносіны да Бога, якому прысвяцілі ўсё сваё жыццё, і на адносіны з бліжнімі, да якіх былі пасланы. У сувязі з гэтым у трываючым Вялікім посце адбыўся дзень засяроджання для манаскіх сясцёр у парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе. У межах сустрэчы сёстры былі заахвочаны занесці Хрыстовую надзею ўсім тым, сярод каго яны штодзённа з вялікім запалам рэалізуюць свае манаскія харызмы.

Святары перажывалі дзень засяроджання ў лідскай парафіі Святой Сям'і. У праграме былі малітва Брэвіярыем, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, Крыжовы шлях і св. Імша.

У сваю чаргу ў Навагрудку адбылася фармацыйная сустрэча маладых святароў 1–8 гадоў святарства. Галоўнай тэмай сустрэчы стала душпастырства моладзі. Удзельнікі разважалі, між іншым, над тым, што неабходна зрабіць, каб прыцягнуць маладых людзей у Касцёл.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У тэставым рэжыме пачаліся экскурсіі па тэрыторыі былога брыгіцкага кляштара, дзе знаходзіцца драўляны лямус – самы стары драўляны будынак у Беларусі. Па папярэднім запісе турысты могуць пабачыць адзіны у сваім родзе – пабудаваны без аніводнага цвіка – архітэктурны помнік.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Вялікі пост клерыкі распачалі 4-дзённымі рэкалекцыямі, якія правёў а. Андрэй Ядкоўскі CSsR. Раніцамі падчас Ютрані семінарысты разважалі над Божым словам, а на працягу дня слухалі канферэнцыі. Галоўным момантам кожнага дня духоўных практыкаванняў была сустрэча з эўхарыстычным Езусам падчас св. Імшы, а таксама ў адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.

На заканчэнне рэкалекцый алюмны III курса прынялі паслугу лектарату, а IV курс – паслугу акалітату. Іх у семінарыйнай капліцы ўдзяліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх таксама ўзначаліў св. Імшу ў семінарыйнай супольнасці з нагоды ўрачыстасці св. Юзафа, свайго заступніка.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) у Гродне адбыліся велікапосныя рэкалекцыі для моладзі горада. Іх правёў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Наследаваць Хрыста, даваряць Яму і быць Яго сведкамі – вось галоўныя думкі, якімі дзяліўся іерарх са шматлікімі ўдзельнікамі рэкалекцый.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Арганізацыйная сустрэча перад тракельскімі ўрачыстасцямі прайшла ў дыяцэзіяльнай курыі. • Трое святароў Гродзенскай дыяцэзіі прынялі ўдзел у сустрэчы, прысвечанай душпастырству моладзі, якая адбылася ў Рыме (Італія). • Дні духоўных сустрэч для юнакоў правялі айцы піяры ў Лідзе. • Апостальскі Нунцый абп Габар Пінтэр узначаліў у Ашмянах пахавальную св. Імшу за бацьку дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандра Яшэўскага. • Крыжовы шлях у абарону жыцця адбыўся ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. • Арганізацыйная сустрэча валанцёраў перад Дыяцэзіяльнымі днямі моладзі прайшла ў Шчучыне. • У Гродне адбыўся марш, прысвечаны памяці ахвяр Халакосту.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**25 сакавіка 2005 г.** – кс. прэлат Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
**25 сакавіка 2009 г.** – кс. канонік Уладзіслаў Мяшчанскі, *душп. Сапоцкін;*
**26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Хробаншч, *проб. Капцёўка;*
**26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы;*
**30 сакавіка 1975 г.** – кс. Станіслаў Сарока, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава;*
**4 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, *проб. Белагруда;*
**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, *проб. Градаўшчына.*

АНОНСЫ

## ВЕЛІКАПОСНЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДУЦЬ У АДАМАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні арганізуюцца пры кляштары сясцёр кармэлітак Дзіцятка Езус з 29 па 31 сакавіка.**

Рэкалекцыі адбудуцца пад назвай "На дарозе вяртання ў айцоўскія абдымкі". Да ўдзелу запрашаюцца дзяўчаты ва ўзросце ад 14-ці гадоў.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 884-39-67 – с. Ідалія.*

## "Я ПРАБАЧАЮ ТАБЕ..."

**Пад такім дэвізам 30 сакавіка ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) адбудзецца велікапоснае чуванне для моладзі.**

*Малітоўная сустрэча распачнецца ў 19.00 св. Імшой. У праграме таксама прэзентацыя пра грахі, пакутные набажэнствы, адарацыя Крыжа, сакрамант споведзі.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні на тэму: "Калі хочаш Мяне наследаваць, то бяры свой крыж на кожны дзень і ідзі са Мною збаўляць свет" адбудуцца з 12 па 14 красавіка ў Вышэйшай духоўнай семінарыі.**

Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.

На перажыванне хвілін цішыні і разважання над сваім жыццёвым шляхам запрашаюцца юнакі ад 14-ці гадоў, асаблівым чынам міністранты.

*Пра ўдзел у рэкалекцыях неабходна паведаміць да 9 красавіка. З сабой трэба мець Святое Пісанне і кожму.*

*Запіс па тэлефоне: (8 0152) 62-22-22. Адказны за правядзенне рэкалекцый – кс. Андрэй Лішко: (8 029) 744-99-61.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ Ў КАРМЭЛІЦКІМ ДУХУ АДБУДУЦЦА Ў МЯДЗЕЛІ

**Айцы кармэліты босыя запрашаюць на час духоўнага аднаўлення ў духу св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай), св. Яна ад Крыжа, св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і іншых святых кармэліцкага ордэна.**

План рэкалекцый на 2019 год:
7–9 чэрвеня – "Спецыфіка кармэліцкай малітвы", а. Андрэй Авен OCD;
23–25 жніўня – "Умовы добрай малітвы", а. Юрый Находка OCD;
23–27 верасня – рэкалекцыі для святароў;
13–15 снежня – "У садзе св. Тэрэзы ад Езуса – шлях духоўнага жыцця", а. Сяргей Трысцень OCD.

*Рэкалекцыі пройдуць у манаскім доме айцоў кармэлітаў у Мядзелі.*

*Па пытаннях запісу звяртацца па тэлефонах: (8 0179) 72-29-00, (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD; або праз электронную пошту: karmelmiadziel@gmail.com.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **Арцем'еву Ганну Васільеўну,** якая 11 лютага 2006 года ў парафіяльным касцёле св. Францішка Асізскага ў Свіслачы ўзяла шлюб **з Шапель Віктарам,** просім з'явіцца ў сядзібу суда ў Гродне: вул. К. Маркса, 4 – або патэлефанаваць па нумары: (8-0152) 75-64-37.

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці іншую інфармацыю аб месцы знаходжання Арцем'евай Ганны Васільеўны, просім паведаміць у Касцёльны суд.*

## Каляндар падзей

***24 сакавіка***
*III Нядзеля Вялікага посту. Нацыянальны дзень "Карытас". Падтрымаем малітвамі і ахвяраваннямі гэтую дабрачынную ўстанову.*

***25 сакавіка***
*Урачыстасць Звеставання Пана. Дзень святасці жыцця. Заахвочваем далучыцца да Духоўнага ўсынаўлення ненароджаных дзяцей і да малітвы ў інтэнцыі зачатага жыцця.*

***31 сакавіка***
*IV Нядзеля Вялікага посту, называемая Нядзеляй радасці (Laetare).*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***
*Аб духу пакоры і дары навяртання для людзей, залежных ад розных дрэнных звычак, а таксама аб духоўным аднаўленні для абыякавых хрысціян. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Красавік***
*Аб святасці нашых сем'яў і ўмацаванні ва ўзаемнай любові бацькоў і дзяцей, старэйшага і малодшага пакалення. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Дастулны фота- і відэаматэрыялы.*

## Дзіцячы куточак

# Крочым за Езусам Крыжовым шляхам

***Прывітанне, Маленькі Чытач! Ты, напэўна, ужо неаднаразова чуў альбо асабіста ўдзельнічаў у набажэнстве Крыжовага шляху. Сёння я хачу Табе распавесці, адкуль паўстала такая традыцыя і да чаго яна нас заклікае.***

*Стацыі Крыжовага шляху – гэта моманты, што паказваюць апошнія гадзіны жыцця Хрыста на зямлі. Стацыі служаць напамінам аб прыніжэнні, якое Езус гатовы быў прыняць, адмаўляючыся ад сваіх боскіх прывілеяў, для таго, каб пракласці чалавецтву шлях да збаўлення праз ахвяру ўласнага жыцця.*

*Святое Пісанне не падае нам дакладны маршрут, якім Хрыстос ішоў на Галгофу. Там мы знаходзім спасылкі толькі да 9-ці стацый. У XVI стагоддзі іх было ўсталявана 12, а ў XVII стагоддзі дададзена яшчэ 2: "Зняцце Езуса з крыжа" і "Пахаванне". У такім складзе 14 стацый Крыжовага шляху былі зацверджаны Святым Пасадам і распаўсюджаны ва ўсім Касцёле.*

*На з'яўленне набажэнства Крыжовага шляху паўплывала некалькі фактараў: пілігрымкі ў Святую Зямлю, падчас якіх вернікі наведвалі месца пакут Езуса; папулярнасць набажэнстваў да "Хрыстовых падзенняў пад цяжарам крыжа" і да "пакутлівых шляхоў Хрыста", якія склаліся з працэсійнага пераходу з аднаго касцёла да другога ў памяць аб той дарозе, якую Езус прайшоў падчас сваёй Мукі. Спалучэнне гэтых элементаў дало пачатак стацыям Крыжовага шляху.*

***– Што такое Крыжовы шлях? – спытаў 5-гадовы Марцін у таты.***

***– Крыжовы шлях, – адказаў бацька, – гэта шлях, які прайшоў Езус, несучы цяжкі крыж, аж но да моманту сваёй смерці. Мы перадольваем гэтую дарогу разам з Ім.***

***Марцін упершыню быў запрошаны на набажэнства Крыжовага шляху. Яго браты ўжо шматразова ўдзельнічалі ў ім. А цяпер уся іх сям'я збіралася ў касцёл, каб прайсці 14 стацый Крыжовага шляху.***

***– Гэта як станцыі цягніка? – спытаўся Марцін.***

***Яго браты пачалі смяяцца, але тата ласкава патлумачыў:***

***– У касцёле размешчана 14 карцін. Кожная з іх уяўляе сабой момант на шляху Езуса да смерці. У кожнай стацыі мы бачым важны прамежак гэтага шляху.***

***Марцін вельмі ганарыўся, бо ў першы раз яму дазволілі ўдзельнічаць у такой вялікай падзеі.***

*Дарагі Маленькі Чытач! Крыжовы шлях звычайна разважаецца супольна: святар разам з вернікамі праходзяць ад стацыі да стацыі або ўсе стаяць на каленях, а ў працэсіі ідзе толькі міністрант, які нясе крыж. Аднак можна разважаць яго індывідуальна, таксама праходзячы кожную стацыю ці стоячы на каленях перад Найсвяцейшым Сакрамантам.*

*Набажэнства Крыжовага шляху мы павінны перажываць з малітвай і разважаннямі пра тое, што адбылося 2 тысячы гадоў таму, задумваючыся над уласным жыццём. Так, аб'ядноўваючыся з пакутамі Езуса, можам глыбей увайсці ў Яго перажыванні, каб, памятаючы разам са Збаўцам, уваскрэснуць да вечнага жыцця. Таму старайся перажываць гэтае набажэнства вельмі сумленна і ахвяраваць Хрысту тое, што трэба змяніць у Тваім жыцці.*

***Заданне:* абавязкова прымі ўдзел у Крыжовым шляху і пастарайся зрабіць рахунак сумлення над уласным жыццём.**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай паслузе, шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць і сілы для абвяшчэння Божага слова.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў: душэўнага супакою, нястомнага запалу ў выкананні Божай волі, моцнага здароўя і шчодрага плёну на ніве Пана.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Беняконяў*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці і ўсмешкі. Няхай вера стане яшчэ больш моцнай, а абвяшчаемае Божае слова яшчэ глыбей пранікае ў сэрцы вернікаў. Няхай Пан Езус благаслаўляе, а Святы Дух спадарожнічае ў кожную хвіліну жыцця. Жадаем Вам толькі сонечных дзён у служэнні Богу і людзям.

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Ты давяраешся, благаслаўляе кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці і супакою, моцнага здароўя і поспехаў у кожным пачынанні, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Мама з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ганьчыцу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым благаслаўленнем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія дорыце людзям, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. Надалей заставайцеся для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці.

*З памяццю ў малітве, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Аляксандр Севасцьяновіч!**

З нагоды Дня нараджэння прыміце самыя шчырыя і добрыя пажаданні, а таксама ўдзячнасць за Вашу душпастырскую паслугу і 10-гадовую працу ў нашай святыні. Дзякуем за тое, што вучыце сапраўднай любові да Касцёла і людзей. На Вашым асабістым прыкладзе як святара і чалавека мы вучымся бачыць сябе вачыма Бога. Вы для нас з'яўляецеся сапраўдным Настаўнікам. Няхай добры Бог надалей кіруе Вамі і благаслаўляе ў штодзённай працы, бо гэта вельмі няпростая справа – рэстаўрыраваць касцёл і лячыць людскія душы. Але ў Вас атрымліваецца! І мы ўдзячны Пану за гэты Ваш талент. Мы ганарымся Вамі і паважаем за такую вялікую адданасць Богу. Жадаем лёгкай дарогі да святасці, здароўя, сіл, цярплівасці і Божай любові на доўгія гады. Няхай Маці Божая ахоўвае Вас і адорвае цеплынёй свайго мацярынскага сэрца.

*З малітвай, парафіяне з касцёла св. Мікалая ў Міры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай добры Бог памнажыць Вашу веру і благаславіць, Святы Дух шчодра адорыць мудрасцю, Маці Божая ахіне няспыннай апекай і мацярынскай любоўю, а святы Юзаф спадарожнічае ва ўсіх жыццёвых справах. Праз нашы малітвы просім міласэрнага Пана, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай, цярплівасцю і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям. Няхай кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, будзе моцным падтрымкай на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*Удзячныя парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважаны Ксёндз Аляксандр Рудзевіч!**

З нагоды Дня нараджэння прыміце нашы цёплыя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай працы. Жадаем, каб на твары заўсёды ззяла ўсмешка, вочы блішчалі ад радасці, а сэрца моцна білася ад той любові, якая ўім жыве.

*З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: неабходных Божых ласкаў, моцнага здароўя на яшчэ доўгія гады жыцця, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы Заступнік падтрымлівае Вас сваім прыкладам і заўсёды дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Шчыра дзякуем за святарскую паслугу ды адданасць Богу і людзям.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Езус, Найсвяцейшая Маці і Святы Дух апекуюцца Табой, дадаюць сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, усмешка заўсёды будзе на твары, а кожны дзень святарскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем.

*Сям'я Сыкута з Сапоцкіна*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог асвячае Ваш жыццёвы шлях і адорвае мноствам сіл, здароўем і цярплівасцю. Мы ўдзячны Пану за тое, што Вы з намі, што вядзеце нас, як заблукалых авечак, да крыніцы дабра, што ўмееце распаліць у нашых сэрцах агонь любові да Езуса і Яго Найсвяцейшай Маці. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем патрэбных Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа і стойкасці ў пакліканні. Будзь добрым і святым святаром!

*Мама, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат сіл, нязгаснага запалу ў служэнні Богу і людзям. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданую службу Богу і людзям.

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, шчырых і верных людзей побач, шчодрых Божых ласкаў, святла Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Марыя вядзе Вас найпрыгажэйшай сцежкай да свайго Сына, а кожны дзень няхай прыносіць радасць.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Гавэцкі!**

Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння. Жадаем, каб праз Божую ласку ніколі не ведалі стомы. Няхай Пан адорыць Вас моцным здароўем, нязгаснай энергіяй і невычэрпнай дасканаласцю ў святарскім абавязку. Няхай дары Святога Духа, нястомная апека і любоў Найсвяцейшай Маці будуць для Вас жыватворнай крыніцай на кожную хвіліну жыцця.

*З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні.
Святар-дарадца,
мудры і цярплівы,
У час патрэбы мы звяртаемся да Вас,
Каб шчырым словам, часам жартаўлівым,
Вы па-бацькоўску падтрымалі нас.
Прыміце сёння нашы віншаванні,
Паклон падзякі – нізкі, да зямлі.
Здароўя Вам і благаслаўлення Пана,
Апекі Маці Божай, цеплыні.
Каб кожны дзень, асветлены дарамі Святога Духа,
праўдай адкрыцца,
Віталі мы сардэчна разам з Вамі,
Вам доўгіх і шчаслівых год жыцця!

*Вернікі з Вігушкаў, Галімчыны і Сакавічаў*

**Паважанаму Айцу Яну Асіповічу і яго родным**

у сувязі са смерцю таты перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог дадасць моцы, каб перажыць цяжар страты блізкага чалавека. Яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы.

*З павагай, вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанай Сястры Ганне і ўсёй сям'і,**

паглыбленай у жалобу ў сувязі са смерцю блізкага чалавека – бацькі Яна Цішко, выражаем свой глыбокі жаль і выказваем словы спачування.

*Вернікі з в. Гірэвічы*

**Паважанай Сястры Ганне, яе маме і родным**

у сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. З вялікім смуткам яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы. Няхай Пан прыме памерлага ў сваё Валадарства.

*Парафіяне з Трабаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 1332; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная